**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 6 (722) 6 лютага 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





**У школах Глыбоччыны прайшлі традыцыйныя сустрэчы выпускнікоў.**
На здымку: сустрэча выпускнікоў у СШ №1 г. Глыбокае.
*Фота Я. Самсонава.*

## Кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых саветаў ужо вылучаны больш за 5,6 тысячы чалавек

**Паводле звестак Цэнтрвыбаркама на 29 студзеня, кандыдатамі ў дэпутаты мясцовых саветаў вылучаны 5.620 чалавек.**

Грамадзянамі шляхам збору подпісаў вылучаны 3.268 чалавек, працоўнымі калектывамі – 2.427, палітычнымі партыямі – 97.

З партый найбольш актыўна кандыдатаў у дэпутаты вылучае Камуністычная партыя Беларусі – 86 чалавек. Шэсць кандыдатаў вылучыла Ліберальна-дэмакратычная партыя, чатыры – Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці, аднаго — Беларуская сацыяльна-спартыўная партыя.

Найбольшы конкурс сярод прэтэндэнтаў назіраецца пры вылучэнні ў Мінгарсавет, дзе на 57 акругаў вылучаны 49 чалавек. У саветы іншых узроўняў сярэдні конкурс пакуль складае ад 0,1 да 0,3 чалавека на акругу. Усяго выбары пройдуць у 18.816 выбарчых акругах.

Сярод вылучаных прэтэндэнтаў 50,4% – дэпутаты дзейнага складу, 49,3% — жанчыны, 30,1% – працуюць у сферы адукацыі, культуры, навукі і аховы здароўя, 23% – у сельскай гаспадарцы, 14% – у дзяржаўных органах.

Вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых саветаў будзе працягвацца па 10 лютага ўключна. Выбары адбудуцца 23 сакавіка.

*Сяргей Каралевіч, БелаПАН.*

## Мёрскі раён

# Кірмаш важней здароўя?

■ Чэслаў Якубовіч

**Многіх жыхароў Мёрскага раёна засмуціла прынятае на пасяджэнні аблвыканкама рашэнне ад здачы ў эксплуатацыю мясцовай райбальніцы толькі ў 2015 годзе.**

Між тым патрэбны людзям аб'ект аховы здароўя – доўгабуд, які ўзводзіцца ўжо чвэрць стагоддзя. Аднак яму не пашанцавала, як другой падобнай клініцы ў суседняй Шаркоўшчыне. Там новую прыгожую райбальніцу таксама будавалі амаль два дзесяцігоддзі, аднак адкрылі яе толькі ў 2012 годзе. А вось мёрцам не выпаў лёс, хоць на Віцебшчыне за 3 апошнія гады пабудавалі і правялі рэканструкцыю 84 медыцынскіх аб'ектаў. Цяпер на мадэрнізацыю бальніц абласнога цэнтра і завяршэнне доўгабуду ў Мёрах неабходна выдаткаваць каля 600 млрд. рублёў. Магчыма, работы там завяршыліся б раней і нават сёлета, але ў гэтым годзе агромістыя сродкі пойдуць на Гарадок. Яму прымаць у пачатку восені чарговы пампезны фестываль працаўнікоў сельскай гаспадаркі "Дажынкі-2014". На ўзроўні ўрада зменшылі аб'ём фінансавання і прыйшлося значную частку расходаў узяць абласному бюджэту. Праўда, у пэўнай ступені калектыву Мёрскай райбальніцы маральны ўрон ад доўгага чакання новага памяшкання для працы вырашана кампенсаваць. Ёсць планы там у будучым стварыць нават міжраённую бальніцу для правядзення больш шырокай дыягностыкі хворых у рэгіёне, аснасціць яе патрэбным абсталяваннем і нават тамографам. Іншая справа, што Мёры па суседстве з Наваполацкам (там лепшыя кадры), больш зручна для людзей размяшчаецца ў цэнтры рэгіёна Глыбокае.

## Гарадоцкі раён

# Работы – непачаты край

■ Станіслаў Раманчук

**Даволі суровыя маразы ў сярэдзіне студзеня адчувальна прыпынілі ход падрыхтоўкі Гарадка да чарговых XVIII рэспубліканскіх "Дажынак".**

Гэты фестываль для абслугоўвання тысяч гасцей ярмаркі праходзіць лічаныя дні, а сёлета ніводнаму раёну вобласці спакойнага жыцця не будзе. За крыху болей паўгода неабходна выканаць велізарны аб'ём работ, асвоіць, калі атрымаецца, каля 2-х трыльёнаў рублёў. Як заўсёды, робіцца ўсё ў спешцы, бо на абнаўленне Гарадка дагэтуль патрацілі толькі 50 млрд. рублёў. Як лічаць скептыкі, і выбар самога раёна сталіцай "Дажынак" не зусім удалы, бо адных закінутых і неапрацоўваемых зямель налічваецца болей 10 тысяч гектараў. А колькі там жахлівых пустуючых будынкаў не толькі ў сельскай мясцовасці. У самім райцэнтры цяпер 33 розныя аб'екты (склады, крамы, інтэрнат, гараж і іншыя) не маюць гаспадароў, стаяць зачыненыя на замкі. На вёсцы малюнак – яшчэ больш непрыглядны, бо там у Палешына стаіць пусты шматкватэрны жылы дом, узведзены 11 гадоў назад. На тэрыторы раёна мала гаспадароў на зямлі, бо пустуе шмат гаспадарчых пабудоў, кароўнікаў, цялятнікаў. Але, каб не порціць станоўчы імідж свята, многія будуць знесены, а закінутыя зямлі талакой пастраюцца зноў увесці ў севаабарот, калі паліва хопіць. Па існуючай традыцыі пастараюцца змяніць кардынальна выгляд галоўнай плошчы Гарадка. Чакае капітальны рамонт фасадаў дзясяткаў дамоў і адміністрацыйных будынкаў, Дамоў культуры і рамёстваў, кінатэатра "Радзіма". Для людзей - самы жаданы аб'ект ФАК з плавальным басейнам, калі яго паспеюць пабудаваць за кароткі тэрмін.

## Пастаўскі раён

# Ад санчасці да вядучага шпіталя

■ Кастусь Александровіч

**Адным з прыгажэйшых на ўездзе ў Паставы стаў комплекс прыгожых будынкаў, у якіх размяшчаецца 1-ы ваенны пагранічны шпіталь.**

З нагоды 20-годдзя адной з вядучых ваенна-медыцынскіх устаноў Беларусі ў райцэнтры днямі адбыліся святочныя ўрачыстасці. Іх лейтматывам стала, што народ і армія адзіныя, паколькі ў шпіталі гатовы і штогод аказваюць розныя паслугі насельніцтву, цесна ўзаемадзейнічаюць са сваімі калегамі з райбальніцы. Да таго ж сярод 220 адзінак штатнага раскладу ваенныя медыкі ў пагонах не складаюць і палову персаналу. Калісьці шпіталь быў звычайнай ракетнай санчасцю, а пасля распаду СССР перажыў сваё другое нараджэнне. Зараз шпіталь стаў буйной сучаснай медустановай, мае 150 ложкаў для хворых і аказвае самы шырокі спектр медыцынскіх паслуг не толькі для людзей у пагонах. Гэта клініка цяпер аснашчана навейшай сучаснай электроннай апаратурай, у ёй працуюць ваенныя ўрачы экстра-класу. Невыпадкова, што амаль дзвесце чалавек былі адзначаны да юбілею ўзнагародамі і Міністэрства аховы здароўя, мясцовым кіраўніцтвам. Вельмі развітая ў шпіталі стаматалогія і тут атрымалі першы і адзіны пакуль у краіне мабільны стаматалагічны кабінет на калёсах фірмы "Адані". Пры гэтым шпіталь яшчэ і баявая часць, якая апаратыўна можа выехаць у патрэбны раён дыслакацыі, дзе патрабуецца ўзмацненне медыкамі, і прадоўжыць сваю дзейнасць у палявых умовах.

# Аб самым надзённым

## ПРЫНЯТЫ ПАКЕТ ДРАКОНАЎСКІХ ЗАКОНАЎ ВЫКЛІКАЎ ВА УКРАІНЕ ВЕЛЬМІ ВОСТРЫ ПАЛІТЫЧНЫ КРЫЗІС



■ Аляксандр Цішкевіч

**Абурэнне ўкраінцаў выклікалі драконаўскія нормы ўвядзення і завочнай судовай вытворчасці за любыя формы ўдзелу ў акцыях пратэсту, і спрошчаны механізм пазбаўлення недатыкальнасці дэпутатаў, і новыя ярлыкі "замежныя агенты ўплыву" для недзяржаўных арганізацый, якія атрымоўваюць замежныя гранты для сваёй дзейнасці.**

Апошнім часам драматычныя і нават крывавыя падзеі ў суседняй з намі Украіне аказаліся ў цэнтры ўвагі большасці сусветных СМІ. Стала ўсім нераўнадушным людзям, сапраўды, трывожна, калі зусім блізка ад нашых граніц сталі гібнуць у Кіеве людзі і запахла нават прывідам грамадзянскай вайны. Да гэтых масавых народных хваляванняў у кожнага чалавека можа быць свае адносіны і ацэнкі, зыходзячы з ягоных пераканнняў і палітычных сімпатый. Не прэтэндуючы на ісціну ў апошняй інстанцыі, усё ж зазначу, што гэты невырагодны крызіс справакавала найперш украінскае кіраўніцтва.

Менавіта ўкраінскі прэзідэнт і яго ўрад зноў наступілі на адны і тыя ж граблі. Спачатку пасля адмовы ў Вільнюсе ад падпісання дамовы аб асацыяцыі з ЕС, калі пратэсты народа неўзабаве самі б заціхлі перад навагоднімі і калляднымі святамі, яны чамусьці вельмі груба збілі і разагналі намётавы гарадок з некалькіх соцень студэнтаў-пратэстоўцаў. У адказ на гэта падняліся кіяўляне і ўзнік рух Майдану. З цягам часу і гэты пратэстны рух прыпыніўся б і заціх на фоне ўзмацнення маразоў. Аднак ва ўкраінскай улады засвярбелі рукі і па прыкладзе Крамля яна 16 студзеня на кароткім пасяджэнні Вярхоўнай рады Украіны з яўным парушэннем рэгламенту прыняла драконаўскі пакет законаў з грубым абмежаваннем грамадзянскіх праў і свабод народа.

Нардэпы правячай Партыі рэгіёнаў і іх саюзнікі камуністы думалі застрашыць украінцаў нежартоўнымі новымі карамі ад 2 да 10-15 гадоў пазбаўлення волі. Гэтыя законы прымаліся прамым падняццем рук. Асобныя дэпутаты, як бачна на здымках, галасавалі нават дзвюма рукамі, каб набраць болей галасоў. Насуперак дзеючаму заканадаўству пакет новых нарматыўных актаў прымаўся за лічаныя секунды без папярэдняга абмеркавання ў камісіях і фракцыях парламента і без першага чытання ў яўнай спешцы.

Абурэнне ўкраінцаў выклікалі драконаўскія нормы ўвядзення і завочнай судовай вытворчасці за любыя формы ўдзелу ў акцыях пратэсту, і спрошчаны механізм пазбаўлення недатыкальнасці дэпутатаў, і новыя ярлыкі "замежныя агенты ўплыву" для недзяржаўных арганізацый, якія атрымоўваюць замежныя гранты для сваёй дзейнасці. У Еўропе палітыкі і главы знешнепалітычных ведамстваў дзяржаў ЕС адразу ж назвалі законы "самымі рэпрэсіўнымі на кантыненце" за дзесяцігоддзе.

Непапулярны прэзідэнт В. Януковіч, чый рэйтынг падае і стаў меншым, чым у В. Клічко, так спяшаўся, што адразу ж гэтыя законы падпісаў. Яны былі надрукаваныя і з 21 студзеня пачалі дзейнічаць. Украінцам жа не спадабалася многае, за што іх цяпер маглі прыцягнуць да крымінальнай адказнасці. Да прыкладу, рух у аўтакалонах больш 5 машын (як бывае на вяселлях) цяпер павінен арганізоўвацца толькі з дазволу міліцыі. У адваротным выпадку акрамя вялікіх штрафаў і пазбаўлення правоў на 1-2 гады ўладам дазволілі канфіскоўваць транспартныя сродкі.

Такім жа чынам за "заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці" альбо за ўстаноўку без дазволу МУС "малых архітэктурных форм" (намётаў) можна трапіць украінцу ў турму на тэрмін ад 3 да 5 гадоў. Падобны рэпрэсіўны спіс дзеянняў, за што аўтаматычна рэзка прыбавіцца б "зэкаў", толькі радыкалізаваў украінцаў. На чарговае Народнае веча ў Кіеве ў нядзелю 19 студзеня выйшла больш 100 тысяч чалавек. Аднак В. Януковіч не адрэагаваў на патрабаванні не абвастраць сітуацыю і вызваліць арыштаваных актывістаў Майдану. Што было далей, добра вядома: пачаўся этап насілля і гвалту з абедзвюх бакоў канфлікту.

Акрамя ўкраінскай сталіцы пратэсты перакінуліся ў рэгіёны, на сцэну на першы план выйшлі радыкалы і запахла рэвалюцыяй на егіпецкі манер. У шэрагу абласцей, у Львове, Цярнопалі, Роўна, Івана-Франкоўску, Вінніцы, Чарнігаве, Чэркасах і іншых натоўп заняў будынкі абладміністрацый. У самім жа Кіеве пралілася кроў, з'явіліся сотні параненых, Януковіч правёў шэраг перамоў з лідарамі парламенцкай апазіцыі, усе чакаліся потым пасяджэння Рады. Аднак Украіна апынулася на мяжы падзелу і нават развалу. Як будуць развіваца падзеі, цяпер цяжка сказаць, але Радзе прыйшлося 9 з 12 законаў адмяніць, а прэм'ер М. Азараў падаў у адстаўку.

Усё ж варыянтаў выхаду з гэтага вострага канфлікту няшмат. Відавочна адно, што пераможцаў у гэтай вайне нерваў можа і не аказацца. Не трэба з аднаго боку заганяць таго ж В. Януковіча ў кут. Нават калі ён заліе крывёй украінскія землі, увядзе надзвычайнае становішча і стане поўнасцю залежным ад Крамля. Але ці будзе шчаслівы тады правіцель, калі ад яго адвернецца свет і яго стане люта ненавідзець большасць свайго ж народа. Нават худы мір, як падаецца, будзе найлепшы варыянт, бо Украіне пагражае эканамічны крызіс і нават дэфолт разам з дэзінтэграцыяй расколатай краіны.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 06.02.14 | | | | Пятніца 07.02.14 | | | | Субота 08.02.14 | | | | Нядзеля 09.02.14 | | | | Пн.10.02.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -6 | -8 | -3 | -5 | -4 | -4 | -2 | -3 | -3 | -4 | -2 | -2 | -2 | -4 | -1 | -3 | -3 | -4 | -2 |
| Ціск | 747 | 746 | 746 | 745 | 745 | 745 | 745 | 745 | 744 | 741 | 739 | 739 | 741 | 742 | 742 | 743 | 743 | 742 | 743 |
| Вільготнасць | 83 | 90 | 66 | 86 | 100 | 100 | 97 | 100 | 98 | 100 | 97 | 99 | 99 | 100 | 91 | 99 | 99 | 100 | 93 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 3 Ю | 4 Ю | 2 Ю | 3 З | 4 Ю-З | 3 З | 1 Ю | 2 Ю | 5 Ю-В | 5 Ю | 2 Ю | 4 С-З | 3 З | 2 Ю-З | 1 Ю | 1 Ю | 2 Ю-З | 2 Ю-З |

## Дзень за днём

**Прэзідэнт па прыкладзе свайго расійскага калегі загадаў правесці раптоўную праверку арміі і давесці да 120 тысяч у год выпуск кітайскіх легкавушак. Ва ўрадзе Беларусі вырашылі, што сёлета насельніцтва будзе аплочваць 30 % кошту камунальных паслуг і адпусцілі цэны на яшчэ шэраг сацыяльна-значных тавараў. ЦВК не зарэгістраваў 42 ініцыятыўныя групы на выбарах мясцовых Саветаў дэпутатаў. Кожны другі беларускі калодзеж стаў непрыдатным для карыстання. Дарам валхвоў у Мінску пакланілася на моцным марозе больш паўмільёна чалавек, што болей, чым у Маскве. Прадстаячую ХХІІ Алімпіяду ў Сочы беларусы змогуць паглядзець па 3 тэлеканалах, аб'ём вяшчання складзе 400 гадзін.**

# Важнейшыя навіны свету

**Швейцарыя.** Як і чакалася, бездань раздзяліла пазіцыі сірыйскай апазіцыі і рэжыму Башара Асада на перамовах "Жэнева-2", у Сірыі ўжо забіта больш 130 тысяч чалавек.

**Бельгія.** Пасля крывавых сутычак у Кіеве і гібелі людзей Еўрасаюз прыгразіў спыніць афіцыйныя адносіны з Украінай, дзе пачалі душыць грамадзянскія правы і свабоды.

**Сербія.** Дэлегацыя краіны пачала ў Бруселі афіцыйныя перамовы аб уступленні сербаў у Еўрасаюз, найбольш складаным із пытаннем будзе лёс сербскага Паўночнага Косава.

**Бельгія.** У адносінах "Газпрама", як пацвердзіў еўракамісар ЕС Х. Альмунія, прадоўжаць антыманапольнае расследванне, нягледзячы на спробы кампаніі пазбегнуць штрафаў.

**Егіпет.** Амаль 95 % егіпцян падтрымалі на рэферэндуме праект новай Канстытуцыі краіны, супраць якой агрэсіўна выступалі браты-мусульмане і заклікалі да байкоту.

**Іран.** У адказ на рашэнне Тэгерана прыпыніць сваю ядзерную праграму краіны Захаду пачалі вяртаць арыштаваныя іранскія банкаўскія актывы на суму 4,2 мільярда долараў.

**Францыя.** Прэзідэнт Францыя Алланд аб'явіў праграму мер жорсткай эканоміі расходаў дзяржаўнага бюджэту ў бліжэйшыя гады на 50 мільярдаў еўра, сёлета французы эканомяць 5 %.

**Тайланд.** Пасля трох месяцаў акцый пратэсту ўрад аб'явіў надзвычайнае становішча ў сталіцы краіны Бангкоку і шэрагу правінцый, улады могуць хапаць людзей, цэнзура ў СМІ

**Венесуэла.** З-за эканамічнага калапсу ўлады ўвялі двайны курс нацыянальнай валюты да долара, па афіцыйным курсе 6,3 балівара/$ можна купіць толькі медыкаменты і харчаванне.

**КНДР.** Пхеньян балюча ўспрыняў крытыку СМІ суседзяў расстрэлу дзядзькі Кім Чэн Ына і адмовіўся весці працэс злучэння сем'яў з Карэі, падзеленых грамадзянскай вайной.

**Кітай.** На некалькі дзён сталіцу Пекін накрыла густым ядавітым смогам, канцэнтрацыя шкодных рэчываў у паветры перавысіла дапушчальную норму больш чым у 20 разоў.

**Германія.** Вечарам паблізе горада Кобленц упаў на аўтастраду і разбіўся ваенны самалёт Бундэсвера Tornado, абодва лётчыкі змаглі катапульціравацца, і атрымалі толькі атрымалі лёгкія траўмы.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск вырашыў рассакрэціць частку архіваў часоў вайны, калі Святы Прастол масава ратаваў яўрэяў ад нацыстаў, выдаваў ім фальшывыя пашпарты.

**Сенегал.** З порта Дакар пасля затрымання на 18 сутак і выплаты штрафу за незаконную лоўлю рыбы выпусцілі расійскі траўлер "Алег Найдзёнаў" з беларускім маракам.

**ЗША.** Фільмы "Афера па амерыканску" і "Гравітацыя" сталі асноўнымі прэтэндэнтамі (па 10 намінацый) на прэмію "Оскар" у Лос-Анджэлесе, яе перанеслі з-за Алімпіяды ў Сочы.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** А. Лукашэнка пацвердзіў, што пасля новай дэнамінацыі ў Беларусі яшчэ год будуць у абарачэнні і старыя рублі, і новыя рублі і манеты, падобныя знешне на еўра.

**Салігорск.** Калектыў "Беларуськалія" засмуціла, што канкурэнт – расійскі "Уралкалій" падпісаў буйны кантракт з Кітаем са зніжкамі на калій на 24 %, падарваны нашы пазіцыі.

**Гродна.** Урад РБ на базе мясцовага ААТ "Азот", які састарэў за 50 гадоў працы, вырашыў пабудаваць новы сучасны завод, на гэта спатрэбіцца 1 млрд. долараў інвестыцый, іх няма.

**Барысаў.** Новы аўтазавод "БелДжы" за год працы адгрузіў у Расію толькі 235 сваіх машын Geely і яшчэ не ўсе прадаў, казахам – 1015 штук, на складзе было ў снежні 1546 аўто.

**Мінск.** Сённяшняя Беларусь – гэта праект Крамля, як заявіў экс-міністр сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў, яна можа згубіць сваю дзяржаўнасць, прадае млрд. долараў.

**Мазыр.** На мясцовым НПЗ актывізавалі перапродажную падрыхтоўку завода Расіі, заключэнне здзелкі будзе залежаць ад нафтавых пагадненняў з Масквой, нафтапошлін.

**Смалявічы.** Пад пагрозай зрыву апынуўся праект развіцця горада-спутніка Мінска, пабудовы жылога раёна шматпавярховак і катэджаў да 2015 года для 24 тысяч мінчан.

**Жодзіна.** Яшчэ два кар'ерныя самазвалы БелАЗ грузападымальнасцю 450 тон заказалі аўтазаводу шахты Кузбаса, гэта машына-гігант трапіла ў Кнігу рэкордаў Гіннеса.

**Гомель.** Днём вынесла на тратуар у цэнтры горада каля сквера аўтобус 17-га маршрута, загінула жанчына-пешаход, пацярпелі хворы вадзіцель і адна з ехаўшых пасажырак.

**Брэст.** Услед за сталіцай у абласным цэнтры вырашылі на працягу года ўкараніць сістэму электроннай аплаты праезду ў грамадскім транспарце, на яе пойдзе 10-12 мільярдаў рублёў.

**Нарач.** Вечарам у курортным пасёлку Нарач невядомы зламыснік разбіў бакавое шкло і падпаліў салон іншамаркі Honda начальніка паста раённага аддзела Мядзельскага РАНС.

**Гродна.** Па дамоўленасці Беларусі з Сусветным банкам з 2015 года пачнецца сумесная рэалізацыя праекта рэканструкцыі аўтамабільнай магістральнай дарогі М6 на Мінск.

**Мінск.** На выканкаме АБФФ вырашылі правесці чэмпіянат Беларусі па футболе па старой формуле з дзяленнем на дзве шасцёркі, з 2015 года ў "эліце" будзе гуляць 14 каманд.

**Пінск.** На тэрыторыі раёна вырашылі закрыць адразу 14 аддзяленняў паштовай сувязі ў сельскай мясцовасці, замест іх будзе ўжо 19 перасоўных пошт на мікрааўтобусах.

**Мінск.** З "панылым лосем з вялікага бадуна" параўнала прэзідэнцкая газета "СБ. Беларусь сегодня" хакейнае мінскае "Дынама", стаўшае горшай камандай КХЛ з беларусамі.

## У Беларусі з лютага ўзрастаюць дзіцячыя дапамогі



■ Алена Прус, БЕЛТА

**У Беларусі з лютага бягучагадоўзрастаюць дзіцячыя дапамогі, паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў аддзеле народанасельніцтва, гендэрнай і сямейнай палітыкі Міністэрства працы і сацыяльнай абароны.**

Нагадаем, у адпаведнасці з новай рэдакцыяй закона «Аб дзяржаўных дапамогах сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей» з 1 студзеня 2013 года памер дапамогі па догляду за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў дыферэнцыюецца ў залежнасці ад колькасці дзяцей, якія выхоўваюцца ў сям'і. На першага дзіцяці ён складае 35% сярэднямесячнай заработнай платы, на другога і наступных дзяцей - 40. Дапамога на дзіця-інваліда прызначаецца і выплачваецца ў памеры 45% сярэднямесячнай заработнай платы незалежна ад чарговасці нараджэння дзяцей у сям'і.

Для разліку памеру гэтага віду дапамогі з 1 лютага па 30 красавіка 2014 г ужываецца сярэднямесячная заработная плата за чацвёрты квартал 2013 года. Па дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, гэты паказчык у кастрычніку-снежні мінулага года склаў Br5 млн 560 тыс. 846. Такім чынам, з лютага памер штомесячнай дапамогі па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў складае на першага дзіцяці - Br1 млн 946 тыс. 300, на другога і наступных дзяцей - Br2 млн 224 тыс. 300, на дзіця - інваліда ва ўзросце да 3 гадоў - Br2 млн 502 тыс. 400.

Пражываючым на тэрыторыі забруджвання ў зоне наступнага адсялення або з правам на адсяленне дапамога па доглядзе за дзіцем ва ўзросце да 3 гадоў прызначаецца і выплачваецца ў памеры 150% да ўстаноўленага законам.

Пастановай Савета Міністраў зацверджаны новы бюджэт пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва - з 1 лютага па 30 красавіка 2014 года ён складае Br1 млн 128 тыс. 70. Новы БПМ павысіўся на 7,7 % да нарматыву, які дзейнічае з 1 лістапада 2013 г. па 31 студзені 2014 г. -га (Br1 млн 47 тыс. 530 ). На такую ж велічыню ўзрастаюць памеры некаторых відаў дзяржаўных дапамог сем'ям, якія выхоўваюць дзяцей, падкрэслілі ў міністэрстве.

Так, аднаразовую дапамогу пры нараджэнні першага дзіцяці ( 10 БПМ ) складзе з лютага Br11 млн 280 тыс. 700, пры нараджэнні другога і наступных дзяцей (14 БПМ) - Br15 млн 793 тыс. Аднаразовая дапамога жанчынам, якія сталі на ўлік у дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя да 12-тыднёвага тэрміну цяжарнасці, складзе Br1 млн 128 тыс. 100 (100% БПМ). Штомесячная дапамога на дзяцей старэйшых за 3 гады з асобных катэгорый сем'яў, якія вызначаюцца заканадаўствам, на дзіцяінваліда з лютага складае Br789 тыс. 600, на іншых дзяцей у сям'і - Br564 тыс.; штомесячная дапамога па доглядзе за дзіцяці-інвалідам ва ўзросце да 18 гадоў - Br1 млн 128 тыс. 100; штомесячная дапамога на дзіця ва ўзросце да 18 гадоў, інфікаванага ВІЧ, - Br789 тыс. 600.

Па словах спецыялістаў, у мінулым годзе памеры дапамог пераглядаліся чатыры разы ў сувязі з ростам заработнай платы і павелічэннем бюджэту пражытачнага мінімуму (з 1 лютага, 1 мая, 1 жніўня і 1 лістапада).

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Камісія Мінабароны Беларусы пачала высвятляць прычыны інцыдэнту на палігоне ля горада, калі прапаршчык выпадкова з пісталета раніў у нагу салдата.

**Ушачы.** Жыхароў райцэнтра шакіраваў факт забойства ў адной з крам райпо 56-гадовай жанчыныпрадаўца, душагуб забраў 2,5 млн. рублёў выручкі, але быў хутка затрыманы.

**Талачын.** Днём падчас замены газавага балону ў вёсцы Ваўковічы раздаўся моцны выбух, у палаючым доме трагічна загінулі 65-гадовая бабуля з 5-гадовай унучкай у гасцях.

**Чашнікі.** З дапамогай спецыялістаў з Чэхіі на мясцовай папяровай фабрыцы "Чырвоная Зорка" запусцілі новую сучасную машыну па выпуску паперы БП-54, яе кошт 15 млн. еўра

**Віцебск.** У вобласці найменей у Беларусі ў 2013 годзе пабудавалі жылля, з гадавым заданнем не справіліся і іншыя вобласці краіны, за выключэннем толькі Мінска (116 %).

**Верхнядзвінск.** Расійская фірма "Зорка Падмаскоўя" пачала набор персаналу для працы на новым сваім комплексе АЗС з міні-кафэ, магазінам і стаянкай аўто ля граніцы з Латвіяй.

**Сянно.** На сваім прысядзібным участку пенсіянер з вёскі Новае сяло знайшоў ёмкасць з амаль 10 кг ртуці, небяспечнае рэчыва супрацоўнікі МНС утылізавалі тут і ў Наваполацку.

**Лепель.** Шчаслівыя навасёлы атрымалі ключы ад кватэр у новым 100-кватэрным жылым доме райцэнтра, дзе пачалі ўзводзіць яшчэ адну падобную шматпавярхоўку.

**Глыбокае.** У райцэнтры абвясцілі акцыю "600 добрых спраў у падарунак роднаму гораду", лепшых гараджан па добраўпарадкаванні тэрыторыі адзначаць сертыфікатамі.

**Расоны.** У апошнім раёне вобласці адкрываюць першую мабільную перасоўную пошту, па вобласці сёлета дабавяцца яшчэ 20 пошт на калёсах, на Пастаўшчыне – іх ужо 7.

**Ушачы.** У моцны мароз каля 3 гадзін ночы выратавальнікі райаддзела МНС дапамаглі вадзіцелю BMW, аўтамабіль якога замерз і заглох на лясной дарозе ў 11 км ад райцэнтра.

**Лепель.** У райбальніцу трапіў 16-гадовы хлопец, які ледзь не атравіўся дома чадным газам з-за няспраўнага датчыка зваротнай цягі газавага абсталявання катла маркі "Юнкерс".

**Орша.** На трасе на Магілёў 67-гадовы работнік аднаго з калгасаў Шклоўскага раёна не справіўся з кіраваннем "Газелі", сутыкнуўся з фурай і загінуў на месцы ДТЗ.

**Талачын.** Пасля капітальнага рамонту і мадэрнізацыі будынка коштам 6 млрд. рублёў у кінатэатры "Колас" адкрылася ўтульная 3D кіназала на 280 месц для гледачоў.

**Віцебск.** На арганізацыйным сходзе перад шматпакутным ФК "Віцебск" паставілі задачу вярнуцца ў вышэйшую лігу футбола, у каманды ёсць даўгі яшчэ за 2012 год.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Католікі адзначылі Грамніцы



**У нядзелю, 2 лютага, католікі адзначылі Грамніцы. У касцёле гэты дзень мае назву свята Ахвяравання Пана.**

У гэты дзень успамінаецца падзея з Евангелля, калі Дзіцятка Езус быў прынесены ў святыню для выканання абраду ахвяравання. Першымі людзьмі, якія сустрэлі Дзіцятка і распазналі ў ім Хрыста, былі прарок Сімяон і старая ўдава Ганна. Таму ў Беларусі гэта свята называюць яшчэ і Стрэчанне.

Праваслаўныя адзначаць такое свята 15 лютага.

У гэты дзень вернікі асвячаюць свечкі. Яны на працягу года павінны захоўваць дом ад перуноў, грамнічную свечку даюць таксама паміраючым.

***Фота Змітра Лупача.***

# Еўракамісія: Шэнгенскія візы для беларусаў могуць патаннець

**Кошт шэнгенскіх віз для беларусаў можа быць паменшаны, тэрмін іх выдачы скарочаны да 10 дзён, а працэдура атрымання спрошчаная.**

«Беларусь афіцыйна адказала на запрашэнне пачаць перамовы пра спрашчэнне візавага рэжыму з ЕС. Дамоўленасці, падпісаныя ў выніку гэтых перамоў, могуць меркаваць зніжэнне кошту візы для ўсіх беларусаў і адмену платы за іх атрыманне для некаторых катэгорый грамадзян», – гаворыцца ў адказе кіраўніка візавага аддзела Генеральнага дырэктарата ўнутраных спраў Еўрапейскай камісіі Яна дэ Чэстара на зварот беларускіх грамадскіх арганізацый з заклікам спрасціць візавы рэжым, паведамляе «Інтэрфакс».

Акрамя таго, у сваім адказе Ян дэ Чэстар паведаміў, што працэдура атрымання кароткачасовых віз можа быць спрошчаная, тэрмін іх выдачы скарочаны да 10 дзён, а крытэрыі, па якіх будуць выдавацца шматразовыя візы дзеяннем больш года, будуць выразна вызначаныя.

«Еўрапейская камісія надае вялікую ўвагу таму, каб беларускія грамадзяне маглі карыстацца выгодамі спрошчаных працэдур атрымання шэнгенскіх віз у рамках Візавага кодэкса. Гэта ўключае магчымасць памяншэння платы за візы для некаторых катэгорый грамадзян», – гаворыцца ў лісце дэ Чэстару.

Па інфармацыі Еўракамісіі, 47% віз, выдадзеных беларусам летась, былі шматразовымі, а 31,1% усіх віз, выдадзеных беларускім грамадзянам, былі бясплатнымі, што амаль на 2% больш, чым у 2012 годзе.

Беларускія ўлады два гады не згаджаліся на перамовы з ЕС па гэтым пытанні. Афіцыйная адгаворка: дамова з Еўропай пра рэадмісію абавяжа прымаць не толькі ўласных грамадзян (з краін ЕС, па дадзеных Еўрастата, высылаецца штогод не больш дзвюх тысяч беларусаў), але і прадстаўнікоў трэціх краін, якія праз беларуска-польскую ці беларуска-літоўскую мяжу нелегальна заехалі ў ЕС, або засталіся на яго тэрыторыі на незаконных падставах. Шматлікія з іх трапляюць у Беларусь з Расіі.

Зніжэнне кошту шэнгенскіх віз для беларусаў было і застаецца адным з галоўных патрабаванняў апазіцыі да еўрапейскіх палітыкаў.

# Дэпутат: людзі павінны плаціць за візіт у паліклініку

**Пацыент павінен быць зацікаўлены ў захаванні ўласнага здароўя. Пра гэта заявіў дэпутат Палаты прадстаўнікоў, член Пастаяннай камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы Дзмітрый Шаўцоў 2 лютага ў эфіры праграмы «Контуры» на тэлеканале ОНТ.**

«Калі ён (пацыент) атрымлівае медыцынскую дапамогу бясплатна, то ён і марнатраўна да гэтага ставіцца. Калі пацыент будзе сімвалічна плаціць хоць за нешта, ён будзе ўдзельнічаць у захаванні ўласнага здароўя», – сказаў дэпутат.

«Мы няправільна трактуем фразу бясплатная медыцына. Яна не бывае бясплатнай. Яна можа быць бясплатнай для нас з вамі, але для дзяржавы яна каштуе каласальных грошай», – падкрэсліў народны выбраннік.

Паводле яго слоў, у кожнай паліклініцы знойдуцца людзі, якія ходзяць больш за 100 разоў у паліклініку без наяўнасці паказанняў: памерыць ціск, «проста спытаць, проста пачытаць». «І гэта проста, проста, проста выліваецца ў досыць сур'ёзную нагрузку на ўрача. Такога быць не павінна», – лічыць Дзмітрый Шаўцоў.

«Часам мы нядбайна ставімся да ўласнага здароўя і па-спажывецку да сістэмы аховы здароўя. Гэта недапушчальна. Чалавек павінен усведамляць, што нельга даводзіць сябе да сітуацыі, калі ён становіцца жыхаром паліклінік і ледзь не кожны дзень ходзіць», – дадаў дэпутат.

Як паведамляў Тэлеграф, намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Анатоль Тозік прапанаваў увесці плату за наведванне паліклінік. «Вы кажаце, што трэба нешта рабіць з чэргамі ў паліклініках. У нас у сярэднім на аднаго жыхара прыходзіцца больш за 13 наведванняў паліклінік у год, а ў суседніх краінах зусім іншая статыстыка – 6 або 6,5 наведванняў на аднаго жыхара», – завіў ён.

***telegraf.by.***

# Прыйшоў на рыбалку – прыбяры, сыходзіш – прыбяры!

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Беларусь нездарма клічуць Сінявокай. Досыць проста зірнуць на карту, каб зразумець – гэта край шматлікіх, найпрыгажэйшых рэк і азёр, не выключэнне Глыбоцкі і Пастаўскі раёны. З такой прыроднай спадчынай умовы для культывавання рыбнай лоўлі як здаровага віду адпачынку – ідэальныя, для развіцця турызму – выдатныя. Аднак, патэнцыял нашых вадаёмаў у поўным аб'ёме не выкарыстоўваецца, да таго ж пасля развалу вялікай краіны, браканьеры, адчуўшы волю, сталі бязлітасна нішчыць усё жывое ў вадаёмах і лясах, а агульнае бескультур'е набыло велізарны маштаб. У рукатворныя звалкі пачалі ператварацца месцы масавага адпачынку насельніцтва.

Дзяржава не стала сыходзіць ад узніклай праблемы і неадкладна былі прынятыя цвёрдыя меры па навядзенні парадку ў прыродаахоўнай сферы. Толькі за апошнія гады дзясяткі тысяч браканьераў і парушальнікаў парадку панеслі суровыя пакаранні за нанесеную прыродзе шкоду, з парушальнікаў спаганяныя мільярды рублёў і сітуацыя пачала змяняцца да лепшага.

Яшчэ адна праблема – экалагічная. Шматлікія вадаёмы, прыбярэжная паласа і лясныя масівы захламленыя смеццем. Прычына банальная – чалавечае бескультур'е. Назіраецца небывалая цікавасць народа да рыбалкі, колькасць рыбаловаў павялічылася ў дзясяткі разоў. Зрэшты, не рыбаловаў, а людзей з вудамі, якія з праўдзівымі рыбакамі «побач не стаялі». Шматлікіх, з так званых «рыбакоў», можна смела прылічыць да ліку звычайных п'яніц. Яны і лавіць рыбу толкам не ўмеюць, а прыбіраць за сабой – пагатоў. Для прыкладу наведайце возера Вялікае Пліса, Вялікае, Мушкат, Кагальнае, Мнюцкае ды і не толькі і пераканаецеся, колькі там рознага хламу пакінута пасля такіх рыбакоў і адпачывальнікаў, трэба ні адзін прычэп, каб вывезці смецце, ні адзін гаспадар, арандатар не паспее яго прыбраць.

**Калі інспектары выявяць каля рыбалова смецце, то рыбалову прыйдзецца адказваць, нягледзячы на, тое кінуў гэта смецце ён ці хтосьці іншы.**

З наступленнем лёдаставу рыбаловы масава пайшлі на азёры і што мы назіраем на любым вадаёме? Знойдзеце пустыя бутэлькі ад спіртнога, пачкі ад цыгарэт, пабітае шкло і г.д.. Хто гэта пакідае? Адказ вельмі просты: тыя, якія завуць сябе рыбакамі. Сапраўдны аматар рыбалкі ніколі не пакіне на лёдзе ці беразе вадаёма смецце. Інспектары каля кожнага рыбалова не паставіш. У ліпені 2014 года ўступаюць у дзеянне новыя Правілы рыбалоўства, дзе ўказана, што калі інспектары выявяць каля рыбалова смецце, то рыбалову прыйдзецца адказваць, нягледзячы на тое, кінуў гэта смецце ён ці хтосьці іншы - і гэта вельмі правільна. Прыйшоў на рыбалку - прыбяры, сыходзіш - прыбяры за сабой.

За ўсе неправамерныя дзеянні заканадаўствам усталявана адказнасць, адміністрацыйная або крымінальная.

Мы яшчэ не адвыклі ківаць на іншых, лічачы, што хтосьці, першым чынам дзяржаўныя кантралявальныя органы, абавязаны вырашаць праблемы экалогіі, клапаціцца пра захаванне прыродных багаццяў. Пры гэтым не задумваемся над тым, якія страты прыродзе наносім непасрэдна мы самі, кіруючыся прыказкай «пакуль гром не грымне, мужык не перахрысціцца».

Так, гэта наша праблема, але дзяржава ад яе не адхрышчваецца, а зусім наадварот - вырашае яе ўсімі сіламі. Засталося слова за самімі грамадзянамі.

А свой артыкул пра захаванне прыроды хацелася б закончыць словамі з песні Алы Пугачовай, *«море счастья обмелело, и река любви замерзла, но осталось озеро надежды»*, надзеі, што ўсё ў нас будзе добра і мы асцярожна будзем ставіцца да прыроды, да сваёй зямлі, да нашага найпрыгажэйшага горада.

Тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.

## У Пастаўскім раёне вадзіцель, які збіў веласіпедыста, схаваўся з месца ДТЗ

**31 студзеня ў 19:20 у вёсцы Буцэвічы Пастаўскага раёна неўсталяваным аўтамабілем быў да смерці збіты 38-гадовы веласіпедыст, мясцовы жыхар.**

Як паведамляе прэс-служба МУС, падчас уведзенага плану «Перахоп» усталявана, што наезд, кіруючы аўтамашынай «Volkswagen», здзейсніў непрацуючы жыхар гарадскога мястэчка Лынтупы, які затрыманы. Збіты веласіпедыст быў пазначаны светазваротнымі элементамі.

## Кошт акцызных марак у Беларусі павялічваецца на 50%

У Беларусі з 1 лютага 2014 года на 50% будзе павялічаны кошт акцызных марак для маркіроўкі алкагольных напояў і тытунёвых вырабаў. Адпаведнае рашэнне зацверджана пастановай Міністэрства эканомікі ад 24 студзеня 2014 года № 6, апублікаванай на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Кошт акцызнай маркі для маркіроўкі алкагольных напояў складзе 460 рублёў, тытунёвых вырабаў — 180 рублёў.

Папярэдняе павышэнне кошту акцызных марак адбылося 1 ліпеня 2013 года — на 20%.

***Марына Носава, БелаПАН.***

# Вандроўная выстава

*У Віцебску ў музеі мастацтва 28 студзеня адкрыліся дзве перасоўныя выставы. Адна з іх прысвечана 125-годдзю з Дня нараджэння Язэпа Драздовіча, другая выстава прысвечана творчасці нашай зямлячкі з Шаркоўшчынскага раёна Ванды Лагун.*



**Лепельскі мастак Алесь Саўчанка каля сваёй працы – партрэта Язэпа Драздовіча.**

■ **Зміцер Лупач**

**Адкрыла выставу гаспадыня музея Вольга Акуневіч. Яна распавяла прысутным пра Язэпа Драздовіча і Ванду Лагун. 55 працаў было на выставе, прысвечанай Язэпу Драздовічу. Гэта творы, выкананыя ў розных жанрах: партрэты, габелены, пейзажы.**

Далей выставу вёў выкладчык мастацка-графічнага факультэта Віцебскага ўніверсітэта імя Пятра Машэрава мастак Міхась Цыбульскі. Ён правёў аналіз выставы і даваў слова ўдзельнікам.

У сваім слове да ўдзельнікаў кіраўнік Цэнтра імя Язэпа Драздовіча з Германавічаў Ада Райчонак распавяла аб першым драздовіцкім плэнэры, які адбыўся ў 1996 годзе, аб яго ўдзельніках. За гэты час адбылося дваццаць драздовіцкіх плэнэраў, з іх пяць былі прысвечаныя Язэпу Драздовічу. Астатнія былі прысвечаныя выбітным сынам і дочкам Беларусі.

Другая выстава была прысвечаная Вандзе Лагун. Паколькі імя яе яшчэ не вядома шырокай грамадскасці, Ада Райчонак пазнаёміла прысутных з яе творчасцю. Ванда была інвалідам з дзяцінства, амаль усё сваё жыццё правяла ў інвалідным калясцы. Яна памерла ў 2008 годзе, але, нягледзячы на свой трагічны лёс, пакінула пасля сябе цікавую літаратурную і мастацкую спадчыну. Трэба выказаць падзяку спадарыні Адзе, якая імкнецца данесці гэту спадчыну да людзей.

Старшыня віцебскай філіі Саюза мастакоў узгадала пра мастакоў – удзельнікаў драздовіцкіх пленэраў – якіх ужо, на жаль, няма разам з намі. Гэта Віктар Маркавец, Сяржук Цімохаў, Яўген Шатохін, Уладзімір Раманоўскі, Яўген Кулік, Віктар Сташчанюк, Уладзімір Сулкоўскі. Творы некаторых з іх прадстаўлены на выставе.

Мастакі Чэслаў Шамшур і Алесь Карпан распавялі пра значэнне драздовіцкіх плэнэраў у выхаванні любові маладога пакалення да роднай мовы, да гісторыі роднай зямлі.

Напрыканцы выставы Вольга Акуневіч разважала пра значэнне роднай мовы і заклікала прысутных берагчы яе.

Выстава пачала сваё падарожжа па Віцебшчыне. Пасля Віцебска яна пройдзе ў Полацку, Наваполацку, Лепелі, Шаркоўшчыне.

# У 2013 годзе пракурорамі былі адменены 104 незаконныя пастановы следчых аб распачынанні крымінальнай справы

**У 2013 годзе падчас нагляду за дзейнасцю падраздзяленняў Следчага камітэта Беларусі пракурорамі былі распачаты 1.070 крымінальных спраў і адменены 104 незаконныя пастановы аб распачынанні крымінальнай справы. Пра гэта на прэс-канферэнцыі 30 студзеня ў Мінску паведаміў намеснік генеральнага пракурора Аляксей Стук.**

Паводле яго інфармацыі, летась пракурорамі былі праверaны амаль 195 тысяч матэрыялаў аб адмове ў распачынанні крымінальнай справы, вынесеных органамі дазнання. Больш за 21 тысячу матэрыялаў адпраўлены на дадатковую праверку, а па 584 распачатыя крымінальныя справы, на ўлік пастаўлены 514 раней незарэгістраваных злачынстваў.

Пракурорамі выявчаны і адпраўлены ў суды амаль 40 тысяч крымінальных спраў, расследаваных следчымі СК. 483 з іх вернуты для правядзення дадатковага папярэдняга следства.

Пракурорамі падтрымана дзяржаўнае абвінавачанне амаль па 29 тысячах крымінальных спраў. Па пратэстах пракурораў судамі перагледжаны рашэнні па крымінальных справах у дачыненні да 3.449 чалавек.

Пракурорамі прынесены 12.985 іскаў і заяў больш чым на 530 млрд. рублёў.

Як паведаміў Стук, органамі пракуратуры ў 2013 годзе праведзена 1.728 праверак выканання крымінальна-выканаўчага заканадаўства. Па разгледжаных зваротах перададзены з Беларусі ў іншыя дзяржавы для далейшага адбывання пакарання 45 асуджаных іншаземцаў, прынятыя з-за мяжы ў гэтых жа мэтах 25 беларускіх грамадзян.

***Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН.***

# Беларусь заняла першае месца на тэрыторыі былога СССР па росце спажывецкіх цэн у снежні і па выніках 2013 года

**Беларусь заняла першае месца на тэрыторыі былога СССР па росце спажывецкіх цэн у 2013 годзе, сведчыць праведзены БелаПАН аналіз даных нацыянальных органаў статыстыкі.**

За 12 месяцаў (снежань да снежня) цэны ў Беларусі павялічыліся на 16,5%. Далей ідуць: Узбекістан — 6,8%; Расія — 6,5%; Арменія — 5,6%; Малдова — 5,2%; Казахстан — 4,8%; Кыргызстан — 4%; Таджыкістан — 3,7%; Азербайджан — 3,6%; Грузія — 2,4%; Эстонія — 2%; Украіна — 0,5% і Літва — 0,4%.

Цэны знізіліся ў Латвіі (на 0,4%) і Туркменістане (0,5% — за студзень—верасень). У самаабвешчанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспубліцы цэны ў студзені-снежні павысіліся на 3,6%.

У снежні з паказчыкам росту цэн 2,4% Беларусь таксама заняла першае месца. Далей ідуць: Азербайджан (1,9%), Грузія (1,5%), Арменія, Кыргызстан (па 1,1%), Малдова (0,8%), Казахстан (0,7%), Расія, Украіна (па 0,5%) і Таджыкістан (0,3%). Цэны не змяніліся ў Латвіі, знізіліся ў Літве і Эстоніі (па 0,1%). Па Узбекістане даных няма.

Па выніках 2011 і 2012 гадоў Беларусь была першай па росце цэн сярод краін — рэспублік былога СССР (108,7 і 21,8%).

***Дзмітрый Уласаў, БелаПАН.***

# Ратавальнікі вадаправодаў і цеплавых сетак



На фоне лютых маразоў, якія накрылі наш край, пачасціліся тэлефанаванні ў нашую газету з пытаннем: «У вас, у мінулым годзе, была рэклама аб размарозцы трубаправодаў. Не можаце падказаць нумары тэлефонаў людзей, якія гэтым займаюцца?»

– Дык рэклама гэтая і сёння знаходзіцца ў газеце! Чытайце раздзел «Паслугі»,– адказваем.

Калі ёсць праблема, то заўсёды знойдуцца прадпрымальныя людзі, якія гэтую праблему паспрабуюць вырашыць. Рынак!

**На здымку:** прадпрымальнікі Уладзімір Новік (596-65-01) і Андрэй Самуйла (713-61-94) ратуюць замёрзшы вадаправод па вул. 3 Ліпеня. Дарэчы, гэта быў 15 вадаправод, які выратаваны імі за мінулы тыдзень.

***Ул. Скрабатун.***

# Вечарына сустрэчы выпуснікоў




**Традыцыйна, па ўсёй краіне ў першую суботу лютага, бы тыя птушкі, у родныя сцены школы, якая дала ім пуцёўку ў жыццё, спяшаюцца былыя выпуснікі.**

Людна, весела, задорна з нагоды гэтай імпрэзы было на ўрачыстасцях і ў СШ № 1 горада Глыбокае. Гучнымі апладысментамі прысутныя віталі юбіляраў выпуску, якіх ветліва запрашалі на сцэну. Самадзейныя артысты, з ліку цяперашніх вучняў школы, парадавалі гасцей сваім талентам. Тая душэўная цеплыня, радасць сустрэчы і ўспамінаў застанецца ў сэрцы надоўга, мабыць, і на ўсё жыццё.

***Яўген Самсонаў.***

